МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

№8 (136)
жнівень 2013

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## У НУМАРЫ:



НАВІНЫ

## АЙЦЕЦ НАДСАН ПЕРАКЛАЎ НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ "ПСАЛТЫР"



8 жніўня 2013 года айцу Аляксандру споўнілася 87 гадоў. А ён надалей працуе й перажывае за Беларусь.

Аляксандр Надсан, беларускі грэка-каталіцкі святар, апостальскі візітарат для беларусаў-каталікоў замежжа, 8 жніўня адзначыў свой 87 дзень народзінаў. Гэта ўнікальны чалавек, які шмат зрабіў для беларускай справы. Ён можа пахваліцца шматлікімі дасягненнямі й поспехамі, але сам гэта не робіць, паколькі чалавек вельмі сціплы. Аляксандр Надсан нарадзіўся ў сям'і настаўнікаў. Падчас нацысцкай акупацыі вучыўся ў настаўніцкай семінарыі ў Нясвіжы. З 1944 знаходзіцца ў эміграцыі. З 1946 жыве ў Вялікабрытаніі. Там ён заснаваў Згуртаванне беларусаў Вялікабрытаніі. У 1958 прыняў святарскае пасвячэнне. У Лондане ён вёў вельмі актыўную працу на карысць беларускасці, працаваў дырэктарам школы-інтэрната імя Кірылы Тураўскага пры Беларускай каталіцкай місіі (1966—75). У 1971 годзе адбылася знакавая падзея — заснаванне бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лондане, якая паспяхова дзейнічае да сёння. Айцец Аляксандр пераклаў з грэцкай і славянскай моваў на беларускую значную частку корпуса ўсходніх літургічных тэкстаў. Аўтар больш за 250 навуковых публікацыяў, кніг па гісторыі Беларусі і гісторыі беларускага хрысціянства XX ст, малітоўніка "Госпаду памолімся" (2002), які з'яўляецца афіцыйным тэкстам набажэнстваў Беларускай грэка-каталіцкай царквы. Калі мы патэлефанавалі айцу Надсану, каб павіншаваць яго з днём нараджэння, ён расказаў, што якраз закончыў перакладаць з грэцкай на беларускую мову "Псалтыр".

А. Надсан: "Калі вы пытаецеся пра рэцэпт жыцця, то трэба жыць нармальна, без канфліктаў. І немалаважнай з'яўляецца малітва. Цяпер я ўжо працую мала, здароўе не тое. Але вось якраз закончыў праект, пераклаў з грэцкай на беларускую мову "Псалтыр". Хачу здаць у друк. Гэта мая апошняя праца і, думаю, карысная. Колькі магу, столькі пішу, але на іншае сіл не хапае. Дзякуй Богу, маю маладога памочніка, айца Сяргея Стасевіча, які займаецца астатняй працай. А я пішу й малюся. Баліць душа й за беларускі народ. Хацелася б, каб было лепш, чым цяпер. Мне здаецца, што тое, што адбываецца цяпер, не ёсць добрым".

*radyjo.net*

# АКЦЫІ САЛІДАРНАСЦІ З ГРАМАДЗЯНСКАЙ СУПОЛЬНАСЦЮ БЕЛАРУСІ

**Варшава**

4 жніўня ў польскай сталіцы прайшоў Дзень салідарнасці з грамадзянскай супольнасцю Беларусі.

З гэтай нагоды на Замкавай плошчы Варшавы адбыўся пікет. Некалькі дзясяткаў чалавек пад бел-чырвона-белымі сцягамі і з партрэтамі палітзняволеных у руках патрабавалі спынення рэпрэсій у Беларусі. Акрамя палітняволеных, некаторыя людзі трымалі партрэт затрыманага ў Беларусі каталіцкага святара Уладзіслава Лазара і партрэт беларускага палітуцекача ў Польшчы Андрэя Жукаўца, якога ўжо больш за 10 гадоў судзяць у Беластоку.

Таксама на месцы ахвочыя маглі напісаць лісты падтрымкі Алесю Бяляцкаму ды іншым беларускім палітычным зняволеным.

4 жніўня невыпадкова абраны для правядзення Міжнароднага дня Салідарнасці з грамадзянскай супольнасцю і праваабарончым рухам Беларусі. 2 гады назад у гэты дзень быў арыштаваны Алесь Бяляцкі — вядомы беларускі праваабаронца і кіраўнік праваабарончага цэнтра "Вясна".

*Паводле "Еўрарадыё"*

**Вільня**

У літоўскай сталіцы прайшла акцыя, прысвечаная гадавіне арышту Алеся Бяляцкага. У ёй узялі ўдзел каля 30 чалавек. Акцыя адбылася каля амбасады Беларусі ў Літве.

Удзельнікі акцыі надзелі маскі з партрэтам Алеся Бяляцкага і развярнулі нацыянальныя сцягі. У руках яны трымалі плакаты з надпісамі "Праваабарона — не злачынства", "Вырашайце праблемы, а не саджайце тых, хто пра іх кажа", "Свабоду палітвязням".

Падчас правядзення акцыі невядомыя вывесілі вялізны транспарант проста на сцяне амбасады на вышыні некалькіх метраў. На ім быў намаляваны партрэт Алеся Бяляцкага і надпіс на англійскай мове "Свабоду палітычным зняволеным у Беларусі". Ён быў добра бачны з вокнаў амбасады.

"Плакат застаўся вісець і пасля заканчэння акцыі. Паліцыянты адмовіліся здымаць яго, спаслаўшыся на тое, што ў іх няма адпаведнай тэхнікі", – сказаў сайту charter97.org адзін з удзельнікаў мерапрыемства.

Нагадаем, напярэдадні ў цэнтры Вільні быў арганізаваны інфармацыйны пікет: актывісты распавялі пра перaслед Алеся Бяляцкага і іншых грамадскіх і палітычных дзеячаў Беларусі, а ўсе ахвочыя змаглі падпісаць паштоўкі беларускім палітвязням.

*Паводле charter97.org*

**Прага**

4 жніўня 2013 года ў Празе з нагоды Міжнароднага дня салідарнасці з грамадзянскай супольнасцю Беларусі адбылася акцыя ў падтрымку палітычных вязняў. У акцыі бралі ўдзел Арганізацыя за мадэрнізацыю ў Чэхіі, грамадзянская кампанія "Наш дом", а таксама міжнароднае аб'яднанне "Грамадзянская Беларусь" і "Чалавек у нядолі".

Удзельнікі акцыі, апранутыя ў майкі з партрэтамі палітвязняў, прайшліся па галоўных турыстычных вуліцах Прагі і раздалі ўлёткі з інфармацыяй пра парушэнне правоў чалавека ў Беларусі.

*"Радыё Свабода"*

**Берлін, Ставангер**

4 жніўня сябры "Звязу для дэмакратыі ў Беларусі" прыйшлі да беларускай амбасады ў Берліне і развесілі насупраць яе партрэты беларускіх палітвязняў.

У гэты ж дзень прадстаўнікі арганізацыі каля нарвежскага горада Ставангера наведалі помнік "Тры мячы ў скале". Каля яго беларусы таксама вывесілі партрэты беларускіх палітвязняў.

Як расказаў кіраўнік Звязу Анатоль Міхнавец, падчас акцыяў акцэнтавалася ўвага на асобах Яўгена Васьковіча, Арцёма Пракапенкі. Яны былі асуджаныя на 7 гадоў зняволення — кожны за спробу падпалу дзвярэй бабруйскага аддзела КДБ.

Акрамя партрэтаў Васьковіча і Пракапенкі былі таксама здымкі праваабаронцы Алеся Бяляцкага і беларускага ўцекача ў Польшчы Андрэя Жукаўца.

*Паводле "Еўрарадыё"*

**Цюрых**

Акцыю ў замежжы правялі актывісты наваполацкага грамадскага аб'яднання "Свабодны рэгіён" пры падтрымцы Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH).

Паводле ўдзельнікаў, на будынку беларускага консульства былі расклееныя ўлёткі з адрасамі 12-ці палітзняволеных, а таксама два плакаты з патрабаваннем "Свабоду Алесю Бяляцкаму" па-руску і па-англійску.

Такія самыя плакаты былі расклееныя і на афішных тумбах. Мінакам таксама раздавалі ўлёткі з адрасамі палітзняволеных і прапановай напісаць ім лісты падтрымкі. Удзельнікі акцыі адзначылі, што жыхары Цюрыха мала ведаюць пра Беларусь, у тым ліку і пра наяўнасць у краіне палітзняволеных. Але нехта з мінакоў адзначыў, што ў адной з мясцовых газет пісалі пра фальсіфікацыі падчас беларускіх парламенцкіх выбараў 2012 года.

*"Радыё Свабода"*

**Кіеў**

Акцыю салідарнасці з беларускімі палітвязнямі, якая праходзіла 4 жніўня ў Марыінскім парку Кіева пад лозунгам "Прастора свабоднай Беларусі", спрабавалі сарваць невядомыя, паведамляе агенцтва Украінскія нацыянальныя навіны (УНП).

Акцыю праводзілі прадстаўнікі арганізацыі "Міжнародная амністыя" ў рамках Дня салідарнасці з грамадзянскай супольнасцю Беларусі, які праводзіцца сёння ў розных краінах і прымеркавана да даты арышту беларускага праваабаронцы, віцэ-прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека Алеся Бяляцкага.

Праз некалькі хвілін пасля пачатку акцыі да яе ўдзельнікаў падбеглі двое ў масках і сарвалі плакаты. У той жа час у парку з'явіўся чалавек з рупарам, які пачаў прaяўляць незадаволенасць, заяўляючы, што сапраўдная мэта дадзенага мерапрыемства — давесці да сваркі двух прэзідэнтаў Украіны і Беларусі. Чалавек прадставіўся актывістам грамадскага аб'яднання "Цвярозы Кіеў", паведамляе УНП.

*"Новы Час"*

**Бішкек**

Акцыя салідарнасці з беларускім праваабаронцам прайшла ў сталіцы Кыргызстана.

Праваабарончы рух "Бір Дуйно Кыргызстан" правёў акцыю ў падтрымку беларускіх актывістаў у рамках міжнароднага дня салідарнасці з грамадзянскай супольнасцю Беларусі, які праводзіцца штогод 4 жніўня – у гадавіну арышту беларускага праваабаронцы Алеся Бяляцкага, паведамляе радыё "Азатык".

*charter97.org*

## ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ АХВЯРАЎ ТАТАЛІТАРНЫХ РЭЖЫМАЎ

Беларусы ўшанавалі памяць ахвяраў сталінізму і нацызму. Акцыя прайшла ў Варшаве. Пад бел-чырвона-белымі сцягамі з чорнай стужкай беларусы прайшліся па значных для гэтага дня месцах. Паводле арганізатара мерапрыемства Вячаслава Сіўчыка, абодва рэжымы – і сталінскі, і нацысцкі – страшэнныя.

Вячаслаў Сіўчык: “Я вельмі спадзяюся, што камуністычная ідэалогія будзе асуджаная міжнародным трыбуналам, бо злачынствы камуністаў насамрэч нават большыя, чым злачынствы страшэннага нацысцкага рэжыму. Гэта якраз дазволіць беларусам мець спадзеў на тое, што ў нас будзе пабудаванае абсалютна нармальнае грамадства, якое ніколі болей не сутыкнецца з палітычнымі рэпрэсіямі”.

Ва ўсёй Еўропе 23 жніўня адзначаецца як адзіны Дзень памяці ўсіх ахвяраў таталітарных ды аўтарытарных рэжымаў. У Беларусі ў гэты дзень многія наведвалі ўрочышча Курапаты пад Мінскам, дзе былі расстраляныя сотні тысячаў ахвяраў сталінскіх рэпрэсій.

*“Беларускае Радыё Рацыя”*

## БЕЛАРУСЫ ЎПАРАДКАВАЛІ ПОМНІК СЛУЦКІМ ПАЎСТАНЦАМ У БАВАРЫІ

Сябры “Беларуска-Еўрапейскага задзіночання” наведалі мясцовасць Лутэнзе ў Нямеччыне.

Паводле слоў кіраўніка арганізацыі Змітра Піменава, ”давесці помнік да належнага стану” ён вырашыў, калі ўпершыню наведаў гэтую мясцовасць разам з сябрамі ініцыятывы ”Беларуская нацыянальная памяць”. Бо было ”вельмі сорамна перад душамі тых беларусаў, што ў далёкім 1948 годзе яго пабудавалі”. Як вядома, помнік быў усталяваны ў памяць удзельнікаў Слуцкага збройнага чыну 1920 года.

Каб атрымаць дазвол на бетанаванне слупкоў вакол помніка, беларусы звярталіся ў амбасаду Нямеччыны ў Бельгіі, але немцы ніякага адказу не далі. “Але слупкі мы і так паставілі. Зразумела была рызыка, але была надзея на Божую дапамогу”, — кажа Піменаў.

Нагадаем, забыты помнік случчакам у 2008 годзе знайшлі сябры “Беларускай нацыянальнай памяці” падчас сваёй еўрапейскай экспедыцыі па пошуку магілаў беларусаў.

*Паводле “Еўрарадыё”*

## У ВАРШАВЕ ЗНАЙШЛІ МАГІЛУ СЛАВУТАГА БЕЛАРУСКАГА АТАМАНА



Магілу атамана “Зялёнага дуба” Цімафея Хведашчэні знайшлі сябры “Беларускай нацыянальнай памяці” на Паўночных могілках польскай сталіцы.

Нейкі час Хведашчэня ваяваў з бальшавікамі ў Беларусі пад камандаваннем Булак-Балаховіча. Пасля паразы Слуцкага паўстання 1920 года ён падаўся ў беларускую партызанскую арганізацыю “Зялёны дуб”, дзе стаў атаманам. Пазней ён перабраўся ў Польшчу і адтуль рабіў узброеныя вылазкі ў Беларусь, занятую бальшавікамі. Аднак улады Польшчы не вельмі давяралі Хведашчэню: некалькі разоў яго арыштоўвалі. Праз нейкі час ён пасяліўся ў Белавежы.

Падчас Другой сусветнай вайны Хведашчэня ўзначальваў Беларускае аб’яднанне ў Белавежы і быў дырэктарам беларускай школы. Пасля вайны нейкім чынам беларускі атаман стаў польскім палкоўнікам. У 1947 годзе яго арыштавалі новыя ўлады і вызвалілі толькі ў 1954 годзе.

Да апошняга часу не было вядома, калі канкрэтна і дзе памёр Хведашчэня. Яго магілу сябры “Беларускай Нацыянальнай Памяці” шукалі даўно. Дапамог ім у гэтым беларус з Беласточчыны і палкоўнік польскага войска Юры Зюзя. Ён вёў перапіску з вайсковым архівам Польшчы. Дзякуючы гэтаму ўдалося знайсці магілу Хведашчэні. Як высветлілася, ён памёр у 1977 годзе.

*“Еўрарадыё”*

## У ВАРШАВЕ АДШУКАЛІ МАГІЛУ МІХАЛА ФЕДАРОЎСКАГА




Сябры “Беларускай нацыянальнай памяці” адшукалі магілу Міхала Федароўскага. Этнограф, даследчык беларускай культуры пахаваны ў Варшаве на Павонзкіх могілках.

Раней было вядома, што навуковец пахаваны на гэтых могілках, але дзе дакладна, заставалася таямніцай, зазначыў старшыня грамадскай арганізацыі “Беларуская Нацыянальная памяць” Анатоль Міхнавец:

– Інфармацыю пра магілу Міхала Федароўскага мы атрымалі ад Уладзіміра Хільмановіча, які займаецца таксама пошукамі біяграм, пошукамі месцаў і інфармацыі пра дзеячаў. Было вядома толькі, што магіла знаходзіцца на Павонзкіх могілках. Мы шукалі праз інтэрнэт і вось удалося знайсці.

Міхал Федароўскі нарадзіўся 1 верасня 1853 года ў Варшаве.

Яго бацька Адольф пасля ўдзелу ў паўстанні 1863–1864 гадоў эміграваў у Францыю. У 1877 годзе Міхал Федароўскі пераехаў у ваколіцы Пружан. Тут ён пачаў вывучаць мясцовы фальклор.

За 27 год на Беларусі Міхал Федароўскі напісаў шматтомны зборнік “Люд беларускі”, у якім усебакова апісаў беларускую народную культуру.

*“Беларускае Радыё Рацыя”*
*Фота “Еўрарадыё”*

# У ПРАЗЕ ВЫДАЛІ “ЧЭШСКАЕ ЎСВЕДАМЛЕННЕ БЕЛАРУСІ”




У інтэрв'ю “Салідарнасці” ўкладальнік зборніка “Чэшскае ўсведамленне Беларусі” філолаг Міхал Вашычэк расказаў, як з'явілася ідэя выдаць такую працу, адкуль у чэхаў цікавасць да Беларусі і што нас аб'ядноўвае.

“Салідарнасць”: У чым сутнасць гэтага зборніка? Адкуль узнікла ідэя яго стварэння?

МВ: Мэта зборніка — паказаць неспадзявана багатыя адносіны чэхаў і беларусаў, якія існуюць ужо шмат стагоддзяў.

Ідэйным бацькам выдання з'яўляецца выдатны чэшскі славіст і мовазнаўца прафесар Марван, які вырашыў прымеркаваць зборнік да Міжнароднага з'езду славістаў, што сёлета адбудзецца ў Мінску.

“Салідарнасць”: Якія аўтары працавалі над гэтым выданнем?

МВ: У зборнік уключаны артыкулы як беларускіх (у тым ліку і тых, што жывуць у Чэхіі), так і чэшскіх навукоўцаў. На жаль, беларусістаў у Чэхіі няшмат, таму беларускія аўтары пераважаюць. Прычым адгукнуліся як прафесійныя навукоўцы з Акадэміі навук і ўніверсітэтаў, так і, напрыклад, супрацоўнікі “Радыё Свабода“.

“Салідарнасць”: А якія тэмы асвятляюцца?

МВ: Артыкулы прысвечаныя пытанням лінгвістыкі, літаратуразнаўства, гісторыі, культуры, але маецца і артыкул пра эканоміку. Найбагацей прадстаўлены лінгвістычны і літаратуразнаўчы тэматычныя раздзелы, самастойны раздзел утвараюць артыкулы, у якіх даследуецца дзейнасць найбольш яскравай асобы, якая аб'ядноўвае нашыя краіны – Францыска Скарыны.

Магчыма, самым неспадзяваным раздзелам з'яўляецца “Мікрабеларусістыка”, дзе змешчаны артыкулы, прысвечаныя мікрамовам на беларускай тэрыторыі і беларускім гаворкам. Дыялекталогія і мікрамовы самі па сабе сталі ўжо традыцыйнымі тэмамі славістыкі, але неспадзяванасць у тым, што шматлікія з іх нават напісаныя на мікрамовах і гаворках.

“Салідарнасць”: Кім фінансуецца гэты праект? Ці ўдзельнічае ў гэтым беларускі бок?

МВ: Выданне зборніка фінансуе Карлаў універсітэт, праца аўтараў і рэдактараў дабравольная.

“Салідарнасць”: Адкуль такая цікавасць да Беларусі?

МВ: У мяне асабіста цікавасць да вашай краіны пачалася з цікавасці да мовы, якая паглыблялася на лекцыях майго першага настаўніка беларускай мовы Юрася Бушлякова. Мне здаецца, што цікавасць да Беларусі — прыродная з'ява для чэхаў. Хаця ў нас, на жаль, пра Беларусь ведаюць, гавораць і пішуць вельмі мала.

“Салідарнасць”: Вы добра размаўляеце па-беларуску...

МВ: Дзякуй. Я вучыў славістыку ў Карлавым універсітэце ў Празе, дзе прапануюцца факультатыўныя курсы беларускай мовы. Потым я паехаў у Мінск на адзін семестр на стажыроўку. Гэта ўсе спрыяла таму, што ў мяне ўзніклі вельмі цёплыя адносіны і глыбокі інтарэс да Беларусі.

*Паводле gazetaby.com*

# КНІГУ ГАННЫ СУРМАЧ “БЕЛАРУСЬ БЕЗ МЕЖАЎ” ПРЭЗЕНТАВАЛІ Ў НЬЮ-ЁРКУ

11 жніўня 2013 года ў Нью-Ёрку ў грамадскай зале пры Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царкве парафіі імя Кірылы Тураўскага адбылася прэзентацыя кнігі старшыні Галоўнай управы Беларуска-Амерыканскага Задзіночання (БАЗА) Ганны Сурмач “Беларусь без межаў”.

Выданне кнігі прысвечанае 20-й гадавіне правядзення Першага з’езду беларусаў свету, які адбыўся 8–10 ліпеня 1993 года ў Мінску.

Кнігу прэзентавала сама аўтарка, а таксама доктар Вітаўт Кіпель, дырэктар Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва – інстытуцыі, дзякуючы якой выданне пабачыла свет.

Кніга заснаваная на матэрыялах перадачы “Беларускае замежжа”, якія былі сабраныя аўтаркай падчас працы на “Радыё Свабода” ў першае палове 2000-х гг.

Выданне – панарамнае адлюстраванне беларускай прысутнасці ў свеце. Кніга ўключае шматлікія гутаркі з людзьмі, у якіх паказаныя лёсы беларусаў з амаль усіх кантынентаў свету. Каштоўнасць выдання ў пашырэнні веды пра беларускую эміграцыю, гісторыя якой налічвае ўжо не адно стагоддзе.

Падчас прэзентацыі адбылася перадача Вітаўтам Кіпелем скульптуры Ефрасінні Полацкай, выява якой была абраная сімвалам Першага з’езду беларусаў свету. Доўгі час скульптура захоўвалася ў Беларускім Інстытуце Навукі і Мастацтва ў Нью-Ёрку. Ад гэтага часу гэты сімвал зойме пачэснае месца ў Царкве імя Кірылы Тураўскага.

*Андрэй Асадчы, Інфармацыйны цэнтр БАЗА*




*Ганна Сурмач. Фота Дзмітрыя Шчыгельскага*

# АЛЕСЬ ПЕТРАШКЕВІЧ: “Я ХАЧУ ВЯРНУЦЬ САПРАЎДНУЮ ГІСТОРЫЮ”

## ГУТАРКА З СЯРГЕЕМ ШАПРАНАМ

Год таму, 24 жніўня, сышоў з жыцця Алесь (Аляксандр Лявонавіч) Петрашкевіч — беларускі гісторык, драматург і сцэнарыст. Але засталося яго слова.

Гэтае інтэрв’ю ніколі не друкавалася. 1 мая 2005 года Алесю Петрашкевічу споўнілася 75 гадоў. Па шчырасці, я не збіраўся рабіць з ім ніякіх юбілейных інтэрв’ю найперш з-за занятасці кнігай пра Васіля Быкава, але было адчуванне няёмкасці, бо з Петрашкевічам быў знаёмы не першы год і неаднойчы ўжо друкаваў гутаркі з ім.

Інтэрв’ю хоць і было зроблена (Алесь Лявонавіч пазваніў на наступны дзень — сказаў, што, відаць, шмат лішняга нагаварыў, але я адказаў, што ў тым, сярод іншага, і сутнасць маёй працы — каб выбіраць з гутаркі галоўнае), аднак на старонках “Белорусской деловой газеты” не выйшла — мне было прапанавана скараціць яго ўдвая, я адмовіўся ад публікацыі наогул.

Калі Петрашкевіч дазнаўся пра тое, сказаў, што я ўсё правільна зрабіў, дадаў таксама, што абсалютна не крыўдуе. Аднак адчуванне няёмкасці засталося. Таму з таго часу Алесю Лявонавічу я больш не званіў і ніколі з ім ужо не бачыўся.

Ніжэй падаецца не толькі тое інтэрв’ю, што было завізавана Петрашкевічам, але і вытрымкі з нашай гутаркі, якія ў канчатковы варыянт інтэрв’ю не трапілі*.

**Сяргей Шапран:** Алесь Лявонавіч, як гэта — пісаць, калі п’есы не ставяць? Драматургія ж не існуе без тэатра.

**Алесь Петрашкевіч:** Мяне гэта не хвалюе. Гавару гэта абсалютна шчыра. Гэта нават добра. Вось такі парадокс! Бо калі пішаш, разважаючы, куды пасля панясеш п’есу, тым самым шмат чым звязаны, паколькі, свядома ці не, раздумваеш над пытаннямі: а ці возьмуць? ці дазволіць цэнзура? “не переборщил ли?..” А калі пішаш, не спадзеючыся, што будзе пастаўлена, ты абсалютна вольны — вольны найперш ад усялякай мітусні. Ды і драматургія як жанр літаратуры можа існаваць і без тэатра.

**СШ:** Аляксандр Твардоўскі гаварыў, што літаратура павінна стварацца ў свой час. Вашай драматургіі гэта не датычыцца?

**АП:** У мяне спецыфічнае пісьмо — я рэканструюю гісторыю, але па ўсіх правілах літаратурнага жанру. За дваццаць гадоў я стварыў мастацкі варыянт гісторыі Беларусі ў дзеючых асобах: ад Рагнеды да Янкі Купалы. Я ажывіў нашу гісторыю. Так, сёння мае п’есы не запатрабаваныя, аднак неабходнасць у іх з’явіцца заўтра, калі ўсур’ёз будзе пастаўлена пытанне пра незалежную дзяржаву, бо ў суверэннай дзяржавы павінен быць гістарычны фундамент. Усё ж не з 1917 года пачалася наша гісторыя! І не “тутэйшыя” тут жылі — “тутэйшымі” нас зрабілі абставіны. Зыходзячы ж з маіх п’ес, можна будзе прасачыць, як і чаму мы такімі сталі. Паводле іх можна будзе вялікі гістарычны серыял зняць! І такі серыял, пэўна, будзе, хай нават не па маіх п’есах — гэта ўжо не так істотна. Даволі будзе таго, калі мая драматургія абудзіць чыюсьці творчую фантазію, пасее ідэю.

**СШ:** У маладосці прызнання хочацца шмат каму. А ў 75?

**АП:** Прызнанне ў любым узросце — рэч, вядома, прыемная. Але зусім не абавязковая. Хоць крыкі: “Аўтара на сцэну!”… Чалавек слабы… Аднак мяне ж у Беларусі не так добра ведалі нават тады, калі мае п’есы ставіліся ў сямідзесяці гарадах Савецкага Саюза!

Наогул, я лішні раз пераконваюся: не трэба чакаць ухвалы і прызнання — трэба проста рабіць сваю справу. Хоць часта можна пачуць папрокі ў адрас пісьменніцкай браціі і наогул інтэлігенцыі: маўляў, яна інертная, далёкая ад жыцця, не ўдзельнічае ў бурных і важных для краіны падзеях. У гэтым, на мой погляд, праяўляецца неразуменне ролі інтэлігенцыі ў грамадскім працэсе. Не трэба ад пісьменнікаў чакаць, каб яны беглі на барыкады! Не трэба ўпікаць, што яны не ходзяць на мітынгі хоць бы таму, што калі нехта з іх патрапіць на Акрэсціна, дык жывымі яны адтуль ужо не выйдуць — гэта калі пакінуць іх на адну ноч без лекаў. А па-другое, пісьменнікі ўсё ж назіраюць за жыццём крыху збоку, асэнсоўваюць яго і параўноўваюць з тым, што ўжо было, знаходзячы пры гэтым аналогіі і паўтарэнне гісторыі то ў выглядзе трагедыі, то ў выглядзе фарса. Тыя гістарычныя жарсці, якія неаднойчы кіпелі на нашай зямлі, абсалютна не саступаюць таму, што апісваў Шэкспір! Але Шэкспір шмат што прыдумаў, а ў беларускай гісторыі можна знайсці столькі сюжэтаў, што паўстане іншая праблема — чаму аддаць перавагу, пра што напісаць? Мне здаецца, што ў гэтым і заключаецца сэнс пісьменніцкай працы: аналізуючы і ўзнаўляючы карціну мінулага, праектаваць яе на сённяшні дзень. “Усё ўжо было”, — сказана ў Біблii. Няшчасце ў тым, што людзі мала чаму вучацца ў гісторыі.

**СШ:** Святлана Алексіевіч, калі яшчэ была журналістам, але ўжо працавала над першай сваёй кнігай, толькі з часам зразумела, што ж павінна стаць галоўнай справай яе жыцця. І, вымушаная пакінуўшы журналістыку, прысвяціла сябе дакументальнай літаратуры. Ці пагодзіцеся з тым, што ў Вашым выпадку такой справай стала гістарычная драматургія?

**АП:** Безумоўна. Хоць я, вядома, “запознены” пісьменнік — першую п’есу напісаў, калі мне было ўжо за сорак. Але, ведаеце, няшчасця ў тым няма.

**СШ:** А шкадаванне?

**АП:** Шкадаванне ёсць, бо цяпер і гады не тыя, дый здароўе… Пачні раней, я больш паспеў бы. Да таго ж, трэба было яшчэ і на жыццё зарабляць. Па вечарах і начах пісаў п’есы, а раніцай ішоў на працу. Ні ў каго з савецкіх пісьменнікаў не было сваёй “Яснай Паляны”! Вось і трэба было рабіць шмат непатрэбнай працы.

Хоць не скажу, што праца ў “Беларускай энцыклапедыі” была без карысці — гэтая праца якраз была па душы, таксама як і праца над ста тамамі гісторыка-дакументальнай хронікі “Памяць”. Дый ці здолеў бы я напісаць свае гістарычныя п’есы, калі б не прачытаў кожны энцыклапедычны том па тры разы?!

Зусім іншая справа — камсамольска-партыйная праца. Колькі ж я гадоў на яе страціў?.. Божа мой, амаль сямнаццаць! Шкадаваць пра тое?.. Але затое я бачыў, што, напэўна, мала каму вядома. Не выключаю, што гэтыя веды дапамогуць мне напісаць яшчэ адну п’есу…

Ды і тое, што было, тое ўжо было. Можна толькі дзякаваць лёсу, што, хай са спазненнем, але мне давялося зразумець, у чым жа яна — мая галоўная справа. Такая справа была ў Васіля Быкава, ёсць яна ў Святланы Алексіевіч, Уладзіміра Арлова, Сяргея Законнікава. Ну, не будзем адставаць ад іншых! (Смяецца.)

Праўда, тыя ж Алексіевіч і Арлоў — больш шчаслівыя ў гэтым сэнсе пісьменнікі — яны бачаць свае кнігі. Апошнюю ж маю кнігу — зборнік, складзены з дзесяці гістарычных п’ес, “Здрапежаная зямля” — я выдаў у колькасці 250 экземпляраў за ўласную пенсію.

**СШ:** Відаць, Вы не надта шчаслівы чалавек — Вашыя п’есы не ставяцца, а Вашай пенсіі наўрад ці хопіць на наступную кнігу…

**АП:** Так, я ўжо даўно напісаў кнігу ўспамінаў, але выдаваць яе сам наўрад ці ўжо буду — для гэтага ніякай пенсіі не хопіць! Тым не менш я, напэўна, здамся вам дзіваком, бо ўсё роўна шчаслівы. Шчаслівы хоць бы таму, што тая ж “Здрапежаная зямля” атрымала такія высокія водгукі, што я і сам паверыў у тое, што напісаў добрую рэч! (Смяецца.) Гэта, дарэчы, і было тое прызнанне, пра якое вы раней пыталіся.

*Сяргей Шапран, “Новы Час”*

**Цалкам інтэрв’ю чытайце на сайце zbsb.org*

# МІЖНАРОДНЫ ФЕСТЫВАЛЬ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ ПРАЙШОЎ У ЛАТВІЙСКІМ ВЕНТСПІЛСЕ

Гэты вялікі фэст, які традыцыйна штогод арганізуе беларуская суполка "Спадчына" з латвійскага горада Вентспілса на чале з Наталляй Бальшаковай, пачынаўся са сціплых Дзён беларускай культуры. З кожным годам дні набіралі моц і перараслі ў міжнародны фестываль. Цяпер паказаць сваё мастацтва ў горад збіраюцца не толькі мясцовыя артысты, але і едуць гурты з Беларусі. Фэст мае цікавыя традыцыі, займеў сваю гісторыю, шматлікіх прыхільнікаў энтузіястаў. Гасцюючы нядаўна ў Венспілсе, я ўпэўнілася: гэта значная і адметная з'ява ў культурным жыцці горада, фэст ужо нават унесены ў сетку яго асноўных культурных мерапрыемстваў.

Назва фэсту "Ад Ліга да Купалля" не выпадковая: 23 чэрвеня ў Латвіі адзначаюць "Ліга" – свята традыцыйнае і там паважанае, звязанае з культам сонца і ўрадлівасці. Яно падобнае да нашага Купалля. Носьбіты традыцыі – людзі сталага ўзросту – перадаюць веды маладым, таму свята жыве і развіваецца ў новых умовах. Арганізатары фэсту вырашылі паказаць беларускую культуру латышам і прадстаўнікам іншых этнасуполак, якія жывуць у тых мясцінах, прытрымліваючыся беларускіх традыцый.

Сёлетні фэст расквецілі ансамбль народнай песні "Заманіха" Полацкага раённага Дома культуры, гурт "На ростанях" Віцебскага каледжа мастацтваў, група студэнтаў БДУ, Тэатр гістарычнага касцюма "Полацкі звяз". Добра сустракалі артыстаў гурта "Тутэйшая шляхта" пад кіраўніцтвам Лявона Махнача, які працуе ў Беларускім дзяржуніверсітэце. У прыгожых строях, каларытныя, статныя артысты ансамбля, як сапраўдныя шляхцічы, прыцягвалі ўвагу ўсіх, хто прыйшоў на свята. З імі фатаграфаваліся, танчылі паланэз і мазурку, прагульваліся па парку.

Усе дні фэсту напаўнялі Вентспілс беларускімі матывамі. Здавалася, увесь шматнацыянальны горад весяліўся разам з гаспадарамі фэсту, тамтэйшымі беларусамі. А госці яшчэ да адкрыцця фестывалю маглі знаёміцца з цікавай выставай твораў мясцовай мастачкі са "Спадчыны", ураджэнкі Маладзечна.

Адкрываўся беларускі фэст у маляўнічым дзіцячым парку "Фантазія". Удзельнікаў і гасцей віталі Пасол Беларусі ў Латвіі Аляксандр Герасіменка, выканаўчы дырэктар Вентспілскай гарадской Думы Алдыс Аволе, старшыня Асацыяцыі нацыянальных меншасцяў Вера Перапяліца, дэпутат Сейма, старшыня Рыжскага беларускага таварыства "Прамень" Алена Лазарава. Прывітанне фэсту даслала Валянціна Піскунова, старшыня Саюза беларусаў Латвіі. Віталі мясцовых беларусаў і прадстаўніца таварыства "Радзіма" ды кіраўнік гурта "Тутэйшая шляхта" Лявон Махнач. Старшыня "Спадчыны" Наталля Бальшакова дзякавала адміністрацыі гарадской Думы і ўсім, хто штогод падтрымлівае фэст фінансава і маральна, а таксама артыстам з Беларусі і тым, хто паспрыяў іх прыезду ў Латвію. Дарэчы, якраз напярэдадні падзеі ў Пасольстве Беларусі спадарыня Наталля была адзначана Ганаровай граматай Нацыянальнага сходу Беларусі за прапаганду беларускай культуры ў Латвіі. Гэта – заслужаная ўзнагарода, і маштабнасць чарговага фэсту тое пацвердзіла.

Кульмінацыяй фэсту "Ад Ліга да Купалля" з'яўляецца якраз Купалле. Сёлета ладзілі яго на плошчы Дзірнаву. Беларуская музыка, песні, танцы запоўнілі прастору. І не было абыякавых да Купальскай дзеі: гарэла рытуальнае вогнішча, людзі падпявалі, танчылі, весяліліся разам з артыстамі, моладзь шукала папараць-кветку...

Ведаю, як няпроста такое свята зладзіць: праграму распрацаваць, прыняць столькі гасцей... Члены праўлення "Спадчыны" вельмі стараліся, праявілі найлепшыя арганізацыйныя здольнасці. А колькі павагі да землякоў! З самага ранку з гасцямі з Беларусі ўсюды – на экскурсіях па цудоўных мясцінах горада, на моры, на фестывальных пляцоўках, ды і ў карагодах і купальскіх абрадах – была Наталля Бальшакова і яе памочніца Алена Нарушэвіч. Мы сапраўды былі абласканыя іх цеплынёй, увагай. На свяце ж адчулі, што ў тым прыгожым кутку Латвіі мясцовыя беларусы любяць Бацькаўшчыну, нашу самабытную культуру. Яны і самі шануюць сваю мову, традыцыі і абрады, і з гонарам знаёмяць з імі людзей іншых нацыянальнасцяў, якія жывуць у Вентспілсе.

*Паводле Галіны Навіцкай, "Голас Радзімы"*

НАВІНЫ ДРУКУ

# СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ ВЫДАЎ У ВІЛЬНІ КНІГУ СВАІХ МЕМУАРАЎ



"Маё жыццё, крах і ўваскрошанне СССР" – па-беларуску выйшла з друку ў Вільні кніга Станіслава Шушкевіча. Гэта перапрацаваны і дапоўнены беларускамоўны варыянт першага рускамоўнага выдання, якое з'явілася ў маскоўскім выдавецтве "РосПЭн" у снежні мінулага года.

Станіслаў Шушкевіч кажа, што ад пачатку хацеў пісаць свае ўспаміны па-беларуску і тут іх выдаваць: "У Беларусі ніхто б яе не выдаў. Тут адзін выдавец хацеў спачатку выдаць, калі ў мяне быў яшчэ рукапіс, але праз два дні ён сказаў, як яму растлумачылі, што гэта будзе апошняя кніга, якая выйдзе ў яго выдавецтве. Таму я выдаў гэтую кнігу ў Вільні. Хоць я яе сам набраў – пераважна гэта была мая ўласная праца, нават вёрстка. Пасля ўжо ўсё крышку падправілі. Таму значыцца, што кніга тутэйшая – беларуская, мінская".

Кніга пазіцыянуецца як палітычная аўтабіяграфія, спалучаная з ацэнкай і аналізам значных падзеяў, удзельнікам ці сведкам якіх быў аўтар. Ён – універсітэцкі прафесар фізікі, які апынуўся ў палітыцы і стаў першым кіраўніком незалежнай Беларусі.

*"Беларускае Радыё Рацыя"*

## ПАЛІТЫЧНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ МОВАЙ МАСТАЦТВА: ЗАПРУДНІК ВЫДАЎ КНІГУ ПРА БЕЛАРУСКІЯ ФЕСТЫВАЛІ Ў ЗША

Улетку ў ЗША выйшла кніга гісторыка Янкі Запрудніка ”Беларускія фэстывалі й выстаўкі. Палітычная інфармацыя мовай мастацтва (1948–2011)”. Добра афармленая кніга з мноствам ілюстрацый прысвечаная “на ўшанаванне ўсіх тых, што працавалі, каб пашырыць імя Беларусі ў Амерыцы”.

Кніга адрасаваная найперш беларусам у ЗША і выйшла на дзвюх мовах. Спачатку прыводзіцца тэкст на англійскай мове, затым — пабеларуску.

Прадмову да кнігі напісаў вядомы дзеяч і навукоўца, сябра Янкі Запрудніка Вітаўт Кіпель — аўтар грунтоўнай кнігі “Беларусы ў ЗША”.

Янка Запруднік апісвае фестывальную дзейнасць у Нью-Джэрсі — штаце, дзе канцэнтравалася асноўная беларуская дзейнасць, было шмат беларускіх арганізацый, былі трывалыя асяродкі і праваслаўныя прыходы: у Саўт-Рыверы, Нью-Брансвіку. У шматнацыянальным Нью-Джэрсі пражываюць дзясяткі тысячаў выхадцаў з Беларусі.

Стварэнне арганізацый у канцы 1940 — пач. 1950-х гадоў, бурная дзейнасць беларусаў прывяло да таго, што адміністрацыя Нью-Джэрсі ў 1975 г. прапанавала беларусам правесці ўласны этнічны фестываль. Навіна пра гэта была сустрэтая з энтузіязмам. Першы фестываль з некалькімі тысячамі




удзельнікаў прайшоў 12 чэрвеня 1976 г. у нью-джэрсійскім цэнтры мастацтваў у Холмдэле, прывітальную тэлеграму даслаў прэзідэнт Джэралд Форд.

Затым беларусы правялі яшчэ два фестывалі, а таксама бралі ўдзел у этнічных фестывалях. Таксама ў Саўт-Рыверы з 1973 г. рэгулярна праводзіліся штогадовыя выставы беларускага мастацтва.

Кніга мае абмежаваны распаўсюд у Беларусі, таму яна выкладзеная электронным файлам у інтэрнэт, дзе даступная кожнаму. Спампаваць яе можна на сайце электроннай бібліятэкі “Камунікат”.

***

Янка Запруднік нарадзіўся 9 жніўня 1926 г. у Міры (сёння — Карэліцкі раён). З 1944 г. на эміграцыі. Скончыў гістарычны факультэт Лювенскага ўніверсітэта ў Бельгіі (1954). 37 гадоў працаваў журналістам-рэдактарам-прадзюсарам Беларускай рэдакцыі Радыё Свабода. Выкладаў гісторыю Расіі ў Куінс-каледжы Нью-ёркскага гарадскога ўніверсітэта, а таксама гісторыю і палітыку ў Гарымана ўскім інстытуце Калумбійскага ўніверсітэта. Адзін з заснавальнікаў МГА ”ЗБС ”Бацькаўшчына”, сябра Вялікай Рады Згуртавання ўсіх скліканняў. Аўтар некалькіх кніг, у тым ліку “Беларусь на гістарычных скрыжаваннях”, “Беларускі гістарычны слоўнік”, “Дванаццатка”.

*“Наша Ніва”*

## ВЫЙШАЎ ПЕРШЫ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНЫ СЛОЎНІК РЭЛІГІЙНАЙ ЛЕКСІКІ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ




У выдавецтве “Граўцова” выйшаў першы энцыклапедычны слоўнік рэлігійнай лексікі беларускай мовы.

Выданне прадстаўлена ў Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце на кніжнай выставе, прымеркаванай да XV Міжнароднага з'езду славістаў.

“Слоўнік з'яўляецца ўніверсальным даведнікам па розных напрамках рэлігійнага жыцця ў Рэспубліцы Беларусь. У ім прадстаўлена актуальная міжканфесійная лексіка, якая датычыцца рэлігійных і рэлігійна-філасофскіх плыняў, назваў рэлігійных арганізацый, абшчын, прыводзяцца звесткі аб найбольш вядомых і шанаваных у народзе абразах, крыніцах, розных святынях”, — паведамляецца ў анатацыі да выдання.

Аўтары энцыклапедычнага слоўніка — ксёндз-дэкан мінскага касцёла Святога Сымона і Святой Алены Уладзіслаў Завальнюк, загадчык кафедры гісторыі беларускай мовы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта прафесар Мікалай Прыгодзіч і выкладчык-метадыст беларускай мовы і літаратуры Валянціна Раманцэвіч.

*“Радыё Свабода”*

ВІНШАВАННІ

## ВІНШАВАННЕ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ



Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”, якія нарадзіліся ў верасні: **Алену Анісім, Ніла Гілевіча, Уладзіміра Коласа, Алеся Пашкевіча, Змітра Саладуху** (Беларусь), **Ірыну Кузьміч** (Латвія), **Георгія Казака** (Расія). Зычым натхнення, цяпла на душы, добрага настрою і моцнага здароўя!

**25 верасня** 75 гадоў спаўняецца **Вячку Целешу**. Ад усёй душы віншуем шаноўнага юбіляра са святам і зычым творчага настрою, выдатнага здароўя, радасці, дабрабыту і шчасця!

*Управа МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*

# ЯК ЖЫВУЦЬ БЕЛАРУСЫ СМАЛЕНСКА?

“Наша Ніва” паразмаўляла з заснавальнікам суполкі Таварыства беларускай мовы ў Смаленску.

“Калі я пачаў цікавіцца гісторыяй Смаленска, то зразумеў, што ён вельмі звязаны з Беларуссю, тут шмат беларускай гісторыі і культуры, — кажа Арцём Краўчанка, які заснаваў у Смаленску суполку Таварыства беларускай мовы. — Шкада, што большасць беларусаў Смаленска не ўсведамляюць свайго паходжання”.

Цяпер у Смаленску, паводле розных звестак, жыве ад 30 да 100 тысяч беларусаў, аднак на пасяджэнні ТБМ стала прыходзіць чалавек пяць.

“Куды большая актыўнасць у інтэрнэце, — кажа спадар Краўчанка. — Ёсць некалькі суполак беларусаў Смаленшчыны, яны пішуць па-беларуску, абменьваюцца спасылкамі на артыкулы па беларускай гісторыі. У суполках па сто чалавек, але ў жыцці яны не вельмі актыўныя”.

Большасць беларусаў, паводле словаў Арцёма, актывізуецца толькі падчас канцэртаў.

Што тычыцца беларускай мовы, то яе ўплыў можна адчуць нават у расійскім асяродку.

“Мова захавалася ў памежных вёсках, аднак цяпер гэта толькі мясцовы дыялект, трасянка.

Прысутнічаюць пэўныя беларускія словы і ў мясцовых рускіх, пры гэтым самі рускія гэтага не заўважаюць”.

У горадзе ж беларускіх слядоў амаль не знойдзеш — паводле спадара Краўчанкі, адзіная шыльда, якая ўзгадвае пра Беларусь, вісіць на смаленскай філармоніі. “Тут у снежні 1918 года была заснаваная Беларуская ССР”.

Праблемаў у смаленскіх беларусаў таксама шмат.




“Па-першае, людзі баяцца пераследу ад спецслужбаў у Смаленску і па прыездзе ў Беларусь, таму і не займаюцца беларускай справай, — мяркуе Краўчанка. — Часам тыя, хто хацеў ладзіць нейкія мерапрыемствы тут, пасля прыязджалі ў Беларусь і імі пачыналі цікавіцца спецслужбы. Іншая праблема — працаўладкаванне. Тыя, хто едзе на працу, сутыкаюцца з тым, што іх не хочуць афіцыйна афармляць — бо “начальства не любіць беларусаў”. Вырашэнне гэтых праблем і магло б аб’яднаць беларускую дыяспару”.

Смаленскае ТБМ збіраецца дапамагаць беларусам шукаць жытло і ўладкоўвацца на працу.

Галоўным кірункам дзейнасці смаленскага ТБМ застанецца арганізацыя канцэртаў беларускіх выканаўцаў. “Яшчэ такога не было, каб на канцэрце беларускага гурта ў Смаленску не прагучала б некалькі песняў на роднай мове”.

*Паводле Юрася Ускова, “Наша Ніва”*

## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА ВЕРАСЕНЬ 2013 ГОДА

1 верасня – 85 гадоў таму, у 1928-м, у Вільні выйшаў першы нумар царкоўна-грамадскага часопіса “Беларуская зарніца” (выходзіў да 1 траўня 1929 г.). Рэдактар-выдавец Аляксандр Коўш.

1 верасня – 85 гадоў таму, у 1928-м, нарадзіўся Расціслаў Лапіцкі (в. Касута, цяпер Вілейскі р-н), арганізатар і кіраўнік антыкамуністычнага падпольнага вучнёўскага руху на Мядзельшчыне і Смаргоншчыне ў 1948–1950 гг. Расстраляны саветамі 28 кастрычніка 1950(?) г.

2 верасня – 65 гадоў таму, у 1948-м, у Лювене (Бельгія) утворана Згуртаванне Беларускіх Ветэранаў. Старшыня Барыс Рагуля.

2 верасня – 15 гадоў таму памёр Мікола Гайдук (1933–1998), пісьменнік, публіцыст з Беласточчыны.

3 верасня – 35 гадоў таму у Рыме памёр Пётр Татарыновіч (1896–1978), святар, грамадска-культурны дзеяч, літаратар, выдавец, дзеяч эміграцыі ў Італіі і Ватыкане.

6 верасня – 110 гадоў таму нарадзіўся Мікалай Дварэцкі (мяст. Іказнь, цяпер Браслаўскі р-н; 1903–1988), грамадскі дзеяч, паэт, які потым жыў у Польшчы.

7 верасня – Дзень беларускага пісьменства і друку.

8 верасня - гадавіна бітвы пад Оршай (1514 г.), у якой войскі Вялікага княства Літоўскга на чале з Канстанцінам Астрожскім нанеслі паражэнне маскоўскаму войску. Дзень беларускай вайсковай славы.

14 верасня – 90 гадоў таму, у 1923-м, нарадзіўся Янка Баран, грамадскі дзеяч эміграцыі ў Канадзе.

15 верасня – 95 гадоў таму нарадзіўся Уладзіслаў Салавей (1918–1974), рэлігійны дзеяч замежжа, душпастыр беларускіх каталікоў і грэка-каталікоў у Нямеччыне. Памёр у 1974 г.

20 верасня – 110 гадоў таму нарадзілася Наталля Арсеннева (г. Баку; 1903–1997), паэтэса, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

24 верасня – нарадзілася Паўліна Мядзёлка (мяст. Будслаў, цяпер Мядзельскі р-н; 1893–1974), актрыса, мемуарыстка, дзеяч культуры.

28 верасня – 60 гадоў таму, у аўтакатастрофе загінуў Базыль Камароўскі (1914–1953), пісьменнік, грамадскі дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Канадзе.

29 верасня – нарадзіўся Уладзіслаў Сыракомля (сапр. Людвік Кандратовіч; фальв. Смольгава, цяпер Любаньскі р-н; 1823–1862), беларускі і польскі паэт-гуманіст, пісьменнік, публіцыст.

**Беларусы ў свеце**
№8(136), жнівень 2013
Падпісана ў друк 09.09.2013
Інфармацыйны бюлетэнь
МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”.
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.
Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – А. Башарымава
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb@tut.by

тэл./факс (+375 17) 200-70-27